ПРАЗМЕРНАЕ ЎЖЫВАННЕ ПІВА І ЧЫТАННЕ ГАЗЕТ ШКОДЗІЦЬ ЗДАРОЎЮ!

piunaya.by





ISSN 2077-0308





№6 (8)

15 лістапада 2010




# NOIZE MC

## "...ГЭТА БЫЛА АДЗІНАЯ НЕЛЕГАЛЬНАЯ РАДАСЦЬ"

Чытайце інтэрв'ю на стар. 6-7




## Портэр Яго Вялікасці, альбо піва ў ВКЛ

стар. 12-13

Гісторыя старажытнага п'янства і разгільдзяйства



## Шаолінськi баскетбол: новы алімпійскі від спорту?

стар. 14-15



## Халадзільнік для абібокаў

**Два амерыканскія студэнты стварылі халадзільнік-катапульту, што страляе бляшанкамі прама ў рукі аматарам піва.**

І толькі гэты "дзівамеханізм" з'явіўся ў продажы – адразу пачаўся пакупніцкі бум. Хоць каштуе ён 295 даляраў, яго "размятаюць" нібыта "Атланты" з паліц ГУМаў і ЦУМаў пасля дэвальвацыі. Што ні кажы, каштоўны падарунак для сапраўдных абібокаў: націснуў на кнопку і толькі рукі падстаўляй!

Піўная ванна – гэта не толькі прыемна, але і вельмі карысна!

# НЕВЯДОМЫЯ ЯКАСЦІ ПІВА

Ці ведаеце вы, што піва можна не толькі піць. Ёсць маса альтэрнатыўных спосабаў, як атрымаць асалоду ад пеннага напою. Як выкарыстаць піва "па-іншаму"?

Стар. 10

**ВАКОЛ ПІВА: Даведайцеся, дзе правесці адпачынак у лістападзе! Стар. 5**

Замест таго, каб ашывацца пад магазінам на сваім раёне, мы прапануем вам пабавіць час у самых дзіўных барах Свету.

[актуаліі]

## АДНЫМ ГЛЫТКОМ

### Піва



Са студзеня па кастрычнік вытворчасць піва ў краіне павялічылася адносна мінулага года на 16,6%. А продаж узрос усяго на 7,7%. Больш за ўсё піва вырабляецца ў ПЭТ, на другім месцы – шкляная тара, на трэцім – кег, апошняе месца – за алюміневай бляшанкай.

### Гарэлка



У сваю чаргу, рэалізацыя гарэлкі насельніцтву за перыяд са студзеня па верасень 2010 зменшылася на 1,7%. Агульная доля гарэлкі ад усёй алкагольнай прадукцыі склала 43,3% адносна 46,4 у мінулым годзе. Мяркуючы па хуткасці, з якой гарэлка саступае свае пазіцыі піву, канчатковая перамога пеннага напою над зялёным змеем не за гарамі.

### Кантралёры



Да канца года Мінсктранс плануе павялічыць колькасць кантралёраў амаль у два разы – са 111 да 208 чалавек. Калі кожны год працягваць павялічваць такімі ж тэмпамі, то гадоў праз 10 колькасць кантралёраў зраўняецца з колькасцю пасажыраў. А праз 15 будуць ездзіць толькі кантралёры.

### Нагляд



Транспартная міліцыя, сыходзячы з досведу Расіі, прапануе кіраўніцтву "Беларускай чыгункі" абсталяваць электрычкі і цягнікі камерамі відэаназірання з мэтай аховы грамадскага парадку. На думку пасажыраў, было б лепей замест відэакамер паставіць тэлевізары – парадку было б больш.

### Даўгі



Знешні дзяржаўны доўг Беларусі па стану на 1 верасня 2010 года складаў 9 млрд 451,3 млн даляраў ЗША, павялічыўшыся з пачатку года на 1 млрд 559,9 млн, альбо на 19,8%. Пакуль можна не хвалявацца, бо тэмпы нарошчвання запазычанасці саступаюць мінулагоднім, калі знешні доўг вырас у 2,1 разы.

### Нафта



Падчас афіцыйнага візіту ў Мінск прэзідэнт Венесуэлы Уга Чавес паабяцаў, што беларускія НПЗ не будуць мець недахопу ў нафце напрацягу 200 гадоў. Цалкам верагодна, што ў 2210 годзе, калі ўвесь цывілізаваны свет будзе функцыянаваць ад сонечных батарэй, альбо здабываць энергію ў недрах космасу, пасярод Еўропы Мазырскі і Наваполацкі заводы паранейшаму будуць гнаць бензін з салярай ды капціць паветра.

### Праезд



З 5 лістапада падаражаў праезд у пасажырскіх цягніках, што ездзяць па Беларусі, аж на 20%. Прычым кошт квіткоў на электрычкі застаўся без зменаў. Такім чынам, раім вам: "Лятайце самалётамі "Аэрафлоту"!" шаноўныя пасажыры.

# Я буду доўга гнаць веласіпед




**Аказваецца, не толькі ў нас антыпіўное лобі наступае па ўсіх франтах. У Еўропе пад раздачу трапілі папулярныя сярод турыстаў пабы на колах, г.зв. "бірбайкі".**

Бірбайк – гэта шматмясцовы велафургон са сталом і піўным кампрэсарам. Таму турысту, які хоча і піўка папіць, і паглядзець мясцовыя цікавосткі – гэта проста незамяняльны від транспарту: круці сабе педалі, вярці галавой ды бухай піва. Аднак гэтаму атракцыёну надыходзіць капец. Суд Дзюсельдорфа абвесціў бірбайкі па-за законам з-за шматлікіх скаргаў кіроўцаў аўтамабіляў. Маўляў, пасажыры такіх піўнух нажыраюцца і перастаюць круціць педалі, з-за чаго на дарогах узнікаюць заторы. Раней аналагічнае рашэнне прынялі ўлады Нідэрландаў.

Па словах прадстаўнікоў кампаній-аператараў бірбайкаў, улады паказваюць сваю эканамічную недальнабачнасць, бо бірбайкі прыцягваюць турыстаў, а гарадская казна атрымлівае вялізны даход у выглядзе падаткаў. Толькі ў гэтым годзе велабары заказвалі каля 150 тысяч разоў. Ужо падрыхтаваны апеляцыі, і ёсць усе шанцы, што вышэйшы суд праявіць мудрасць і скасуе ганебнае рашэнне.

# Час вурдалака




**У той час як украінскія півавары прыгатвалі піва для хакераў пад назвай "Троян", бельгійскія ж вырашылі зварыць піва для сапраўдных ваўкалакаў.**

Як сцвярджаюць у піваварнай кампаніі "Caulier", перавагай піва "Pleine Lune" ("Поўня") перад іншымі гатункамі, з'яўляецца тое, што менавіта поўня з'яўляецца найлепшым перыядам для ферментацыі напою і надае яму асаблівы смак. Новае піва даволі моцнае - яго крэпасць 10 градусаў. Але для суворых беларусаў гэта не навіна, бо нездарма ў Нарачанскім краі ходзіць такая байка:

- А чы бачыў ты, дзед, пачвару, што жыве ў возеры Балдук?
- Бачыў, - кажа той.
- А калі яна з'яўляецца?
- У суботу з'яўляецца. Пасля лазні. Пасля пятага куфлю "Портэра".

## КАВА ШКОДНА ДЛЯ ЗДАРОЎЯ!



**Вядома ж, губіць людзей не піва. Гэтую аксіёму на практыцы засвоілі англійскія каваманы.**

Надзвычайная сітуацыя адбылася нядаўна ў мястэчку Фарнбара, што на поўдні Англіі. У адным з супермаркетаў рвануў аўтамат па вырабу кавы. Прыбыўшым пажарным для барацьбы з агнём прыйшлося нават эвакуіраваць увесь персанал і пакупнікоў. Выбух быў такой моцы, што траўмы атрымалі 7 чалавек, з якіх шасцёра паклалі ў шпіталь. Каралеўскі мінздраў папярэджвае, што кава вельмі шкодзіць здароўю. Так што, лепей піўка: максімум, што пагражае – штаны пенай заліць.

# Кітайскі Тур




**Уладальнік піўной з горада Сянтань, што знаходзіцца ў цэнтральным Кітаі, здзейсніў амаль паўгадавое рачное плаванне, каб убачыць ЭКСПА-2010 і прыцягнуць увагу грамадства да праблем навакольнага асяроддзя.**

Паўтары тысячы кіламетраў 36-гадовы "кітайскі Калумб", якога завуць Ся Юй, прайшоў на самаробным парусным судне з 2 тысяч пластыкавых бутэлек, у тым ліку 3-пад піва. Яго каравэла дасягае 7 метраў у даўжыню і 2 метраў у шырыню.

Падарожжа заняло 156 дзён. За гэты час Ся прарабіў шлях з роднага горада да самага Шанхая. Каб скараціць час у дарозе, падарожнік часам перасоўваўся "водным аўтастопам", чапляючы сваё судна да сапраўдных караблёў.

# ВЫ НЕ ПАВЕРЫЦЕ, МОДА НА РАЗЛІЎНУХІ ДАКАЦІЛАСЯ НАРЭШЦЕ І ДА БЕЛАРУСІ!

ПИВНОЙ РАЗЛИВ сеть магазинов

Хто там на кране?

Колькі каштуе зняць кватэру ў гэтым доме?

МЫ ОТКРЫЛИСЬ!

Дзе гэта знайсці?

праспект Незалежнасці

"Уручча"

Даехаць да станцыі Уручча, выйсці па ходу цягніка, потым – направа і няспешна пехатою... абдумваючы, ці то 3 літры Градскага, ці то 5 медавухі?

Каму падзякаваць?



**Тое, чаго так доўга чакалі, адбылося. Нарэшце мода на "разліўнухі" – крамы, дзе можна набыць навынас незвычайна шырокі спектр разліўнога піва на любы густ – дакацілася і да Беларусі.**

1 кастрычніка ў Мінску адкрылася першая крама разліўнога піва і квасу "Пивной разлив". Утульнае памяшканне знаходзіцца на праспекце Незалежнасці, 168/3, што недалёка ад станцыі метро "Уручча". Сапраўдным аматарам хмяльнога напою прапануюцца разнастайныя гатункі піва ад элітных еўрапейскіх да папулярных беларускіх, якія разліваюцца ў ПЭТ-тару аб'ёмам 0,5, 1 і 1,5 літры. Усяго тут пакуль 13 гатункаў піва, а таксама квас, медавуха і збіцень (апошнія па 6,2% моцнасці!). Акрамя таго, заўсёды можна набыць і аўтэнтычнага бутэлечнага з Чэхіі, Бельгіі, Германіі, Мексікі, Галандыі ды Расіі. Закусон таксама прысутнічае ў шырокім асартыменце – сушаная рыбка і морапрадукты на вагу, а таксама чыпсы, арэшкі, і г.д. Як запэўнілі ўладальнікі "Пивного разлива", ужо ў пачатку наступнага года лінейка разліўнога піва пашырыцца яшчэ на 5 гатункаў, а да канца гэтага года плануецца адкрыць яшчэ адну такую ж "разліўнуху" ў іншым раёне горада. У бліжэйшай перспектыве "Пивной разлив" ператворыцца ў сапраўдную сетку крамаў падобнага кшталту.

Варта адзначыць, што ў суседніх Расіі і Украіне крамы разліўнога піва перажываюць сапраўдны бум. Так, у Кіеве іх колькасць за апошні год павялічылася з 50 да 300. У Маскве, Пецярбургу і іншых буйных гарадах Расіі ажыятаж вакол "разліўнух" прыйшоўся на 2009 год. Нарэшце і Беларусь адхапіла свой шчаслівы квіточак.

# ПА ЗАВЕТАХ ХО ШЫ МІНА

СайгонБизнесБанк
ф-л №12 Ждановичского отделения г. Минска

Кредит "Лакомый"

Всего под 5% алк. годовых!

**Невялікі в'етнамскі банк пачаў прапаноўваць бясплатнае піва ўсім, хто адкрые рахунак у гэтай фінансавай установе.**

Служачыя банку "прастаўляюць" вялікую бляшанку нямецкага піва "Bitburger" за кожны месяц ашчаднага рахунку. Гэты незвычайны спосаб прыцягнення новых кліентаў даволі часта выкарыстоўваецца ў Паўднёва-Усходняй Азіі. У іншых банках, напрыклад, будучым кліентам прапануюць турыстычныя пуцёўкі ў Еўропу, аўтамабілі, шлемы, прасціны і нават прыборы для вымярэння крывяноснага ціску.

І вось ужо красуюцца каля аўтадарог бігборды беларускіх банкаў: "Система сбережений "Линия роста". Бочонок пива на каждый день рожденья!"

# Хейердал

"Я хацеў прыцягнуць увагу да экалагічнага ладу жыцця і павысіць узровень ведаў людзей у галіне абароны воднага асяроддзя – у агульным, прапагандаваць усё тое, што робіць ЭКСПА-2010 у Шанхаі", - сказаў Ся па завяршэнні плавання. На жаль, увайсці на тэрыторыю выставы, якая завяршыцца ў Шанхаі 31 кастрычніка, яму, зрэшты, давялося "на сваіх двух", таму што рачная паліцыя не дазволіла яму ўрачыста "заплыць ў рачныя вароты" ЭКСПА-парку з-за нізкай хуткасці транспартнага сродку.

[вакол піва]

# ЭКСПАРТ: ПІЎНЫ ПРАРЫЎ

"Таможня" дае дабро! Трымай ящчэ адзін кег у якасці бонуса.

**У студзені – кастрычніку бягучага года піваварныя заводы Беларусі павялічылі экспарт у 2,5 разы ў дачыненні да паказальнікаў мінулага года. Па выніках дзевяці месяцаў экспартавана 4 млн. 276,8 тыс. дал піва.**

ААТ "Лідскае піва" экспартавана 461, тыс. дал, што ў 2,4 разы больш, чым за такі ж перыяд мінулага года; ААТ "Крыніца" – 2 млн. 718,6 тыс. дал (у 2 разы больш). ААТ "Брэсцкае піва" павялічыла аб'ём экспарту ў 12 разоў, да 581 тыс. дал. СААТ "Рэчыцапіва" паставіла 41,5 тыс. дал (на 36,1% менш), ААТ "Піўзавод "Алівария" – 83,7 тыс. дал (у 11,2 разы больш), ЗЗАТ "Піваварні Ханекен" – 353,2 тыс. дал (у 10,3 раза больш), СТАА "Дзвінскі бровар" – 37,2 тыс. дал (у 1,9 разы больш). Куды пастаўляе свае піва самы буйны беларускі экспарцёр ААТ "Крыніца"? Які менавіта сорт "Крыніцы" падабаецца замежным аматарам пеннага напою? На гэтыя і іншыя пытанні нам адказаў намеснік генеральнага дырэктара па кіраванні знешнеэканамічнай дзейнасцю **ААТ "Крыніца" Валерый Вінар.**

"83% – это экспорт в Российскую Федерацию. Также мы экспортируем в Прибалтику, Украину, Хорватию. Пошли частичные поставки во В'етнам. Самый популярный сорт – это "Криница Классическое". Экспорт в этом году будет примерно в 1,8 раз больше чем в прошлом. Реально будет где-то около 3 млн. тыс. дал. Это цифра всего производства многих белорусских пивных заводов," – пахваліўся Валерый Вінар.

Што ж, пажадаем поспехаў нашым півоварам у асваенні новых рынкаў збыту і будзем спадзявацца, што піва, якое пастаўляецца ў нашыя крамы, нічым не адрозніцаецца ад таго, што ідзе на экспарт.

# Імпарт не скарачаецца



Яніна Машкова, намеснік дырэктара па экспартных продажах у краіны СНД ААТ "Піваварная кампанія "Балтика"

**Паводле дадзеных Белджяржхарчпрама імпарт піва ў Беларусь за студзень – верасень 2010 г. склаў 11 млн. 273,4 тыс. дал. Лідэрам па пастаўкам з'яўляецца Расія з агульным аб'ёмам 7 млн. 133,5 тыс. дал. З Расіі піва было імпарціравана на суму 39 млн. 501,9 тыс. долараў. Другое месца займае Украіна з 3 млн. 946,1 тыс. дал альбо 15 млн. 534,5 тыс. долараў у вартасным выражэнні. Далей ідуць краіны Еўропы: Літва – 63 тыс. дал, Чэхія – 25,2 тыс. дал, Германія – 14,5 тыс. дал.З Ірландыі было ўвезена 9,4 тыс. дал піва.**

У цэлым імпарт піва ў натуральным выражэнні павялічыўся на 7,1% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Рост паставакназіраецца з Германіі – на 43,6%, Украіны – на 18,6%, з Ірладныі – на 11,6% і з Чэхіі – на 4,9%. У вартасным выражэнні імпарт піва таксама павялічыўся на 3,3%.

Пастаўкі піва з Расіі выраслі ўсяго на 0,3%, а ў вартасным выражэнні скараціліся на 3,6%, але асноўны імпарцёр піва ў Беларусь кампанія "Балтика" не збіраецца адступаць і мае намер экспарціраваць у Беларусь у гэтым годзе каля 6 млн. дал піва.

"В 2009 г компания "Балтика" поставила в Беларусь 5,8 млн. дал пива, в 2010 г поставки могут составить также около 6 млн. дал", – паведаміла ПРАЙМ-ТАСС намеснік дырэктара па экспартных продажах у краіны СНД **ААТ "Піваварная кампанія "Балтика" Яніна Машкова**, – Статистика за полугодие показывает, что сейчас рынок пива Беларуси несколько вырос – по нашим данным приблизительно на 2%, но в целом находится примерно на уровне прошлого года. В первом полугодии 2010 г продажи компании "Балтика" в Беларуси также выросли на 2%, при этом выручка от продаж компании увеличилась на 3%. Такие результаты в полной мере соответствуют стратегии "Балтики" в Беларуси – развиваться вместе с рынком", – удакладніла яна. Па меркаванні Я.Машковай рынак піва "вряд ли будет снижаться". "В то же время давать прогноз относительно большего роста мы сейчас не можем, на данный момент мы действуем исходя из того, что уровень прошлого года сохранится", – сказала яна.

Нагадем, што ў 2009 годзе доля "Балтики" на рынку нашай Сінявокай склала 11%.

Як бачым, негледзячы на намер Белдзяржхарчпраму скараціць долю імпартнага піва, імпарт пакуль не паніжаецца, а кампаніі-экспарцёры піва ў Беларусь не збіраюцца здаваць свае пазіцыі.

## Колькі прадаем і колькі купляем?

| ЭКСПАРТ за студзень – кастрычнік 2010, тыс. дал | | ІМПАРТ за студзень-верасень 2010, тыс. дал | |
|---|---|---|---|
| Дзвінскі бровар | 37,2 | Ірландыя | 9,4 |
| Рэчыцапіва | 41,5 | Германія | 14,5 |
| Алівария | 83,7 | Чэхія | 25,2 |
| Піваварні Хайнекен | 353,2 | Літва | 63 |
| Лідскае піва | 461,6 | Украіна | 3946,1 |
| Брэсцкае піва | 581 | Расія | 7133,5 |
| Крыніца | 2718,6 | | |

## Хайнекен "прапісаўся" ў Беларусі

**Удзельнік групы кампаній "Heineken" у Беларусі СЗАТ "Піваварная кампанія "Сябар" з 4 кастрычніка 2010 г. пераназвана ў СЗАТ "Піваварні Хайнекен".**

"Дадзены крок з'яўляецца адным з ключавых у рэалізацыі стратэгіі "Heineken" у Беларусі па вываду мясцовага піваварства на самы высокі ўзровень, і сведчыць аб дасягненні бабруйскага заводу стандартаў нідэрландскага інвестара", паведамляе сайт кампаніі "Heineken" у Беларусі. Беларускі бровар "Сябар" ўвайшоў ў склад нідэрландскага канцэрна "Heineken" у снежні 2007 года. Ужо летам 2008 г. "Heineken" завяршыў комплексную мадэрнізацыю прадпрыемства, накіраваўшы на гэтыя мэты 12 млн. еўра.

У склад нідэрландскага канцэрна "Heineken" сёння ўваходзяць 127 бровараў у 70 краінах свету. Гэта самы буйны піўны вытворца, які выпускае звыш 200 міжнародных, рэгіянальных і лакальных брэндаў. У брэнд-партфелі "Heineken" у Беларусі такія маркі як "Речицкое", "Бобров", "Днепровское", ліцэнзійныя "Доктор Дизель", "Gosser", "Zlaty Bazant", а таксама квас "Хатні".

# "Лідскае" выйшла ў лідэры

**Беларуская "дачка" фінскага канцэрна "Olvi" ААТ "Лідскае піва" мае самы высокі на піўным рынку прыбытак. У першым паўгоддзі 2010 г. ён склаў 8,7 млрд. рублёў.**

Як сталася, што "Лідскае піва" здолела дасягнуць такіх высокіх паказчыкаў, мы даведаліся ў **начальніка аддзела маркетынгу Таццяны Бабурчык.**

"Основой для таких результатов является оптимизация производства, эффективное бюджетирование всех бизнес-процессов, разумная экономия, заключающаяся в строгом контроле затрат, сбалансированный продуктовый портфель. Цель любого акционерного предприятия – честно работать и приносить прибыль своим акционерам, а налоги с прибыли служат хорошим средством формирования национального бюджета страны, т.е. прибыльное предприятие своей работой вносит вклад в развитие экономики республики," – кажа Таццяна Бабурчык.




З пункту гледжання рынку важным з'яўляецца таксама распачатая ў гэтым годзе будоўля новага брадзільнага комплекса на тэрыторыі лідскага прадпрыемства. Пасля завяршэння будаўнічых работ у "Лідскага піва" з'явяцца дадатковыя магутнасці. Арыенціровачна гэта адбудзецца вясной 2011 г.

Гендырэктар "Лідскага піва" Аўдрюс Мікшыс паведаміў "Белорусским новостям", што за кошт пашырэння вытворчасці магутнасці прадпрыемства павялічацца на 30%. Плюс да гэтага ў прадпрыемства павінен з'явіцца склад, у якім можна будзе загадзя нарыхтаваць прадукцыю да сезону.

Зараз жа на тэрыторыі "Лідскага піва" актыўна працуюць будаўнікі. У аснову новага брадзільнага цэха кіраўніцтва прадпрыемства нават заклала пасланне нашчадкам (пра што "Піўная" пісала ў папярэднім нумары газеты). Калі ў "Лідскага піва" атрымаецца ў 2011 г. павялічыць продажы на 40%, як плануе Аўдрюс Мікшыс, нашчадкам можна будзе пісаць новы мэсэдж.

# Клуб півападарожнікаў

**Чамадан, вакзал, піўная!**



Месца пад куфаль піва

## Дзе правесці адпачынак напрызімку

Вядучы рубрыкі Алесь Ёрш

### Пры святле “газавай лямпы”

**“Гасова лямпа”, Украіна**




Калі вы накіраваліся ў адпачынак са сваёй сяброўкай, то ў чароўным горадзе Львове за столікам у кафэ-музеі “Гасова лямпа” пад інтымным святлом газавых лямп вы можаце пагутарыць пра сёе-тое за куфлем якаснага ўкраінскага піва.

А пачыналася гісторыя кнайпы яшчэ ў далёкім 1852. Тады на месцы гэтай установы была аптэка, уладальнік якой купіў у мясцовых галіцкіх гандляроў некалькі бочак з дыстыляванай нафтай. “Навошта аптэкару нафта?” – спытаеце вы. Ёсць сведчанне, што ён хацеў выгнаць з нафты чысты спірт. Такую задачу ён і паставіў загадчыку лабарторыі Яну Зэгу і яго асістэнту Ігнацію Лукашэвічу. Тыя былі хлопцы не промах, і ужо праз некаторы час галіцкія “алхімікі” вынайшлі газу. Прайшло амаль 160 год, і на месцы той аптэкі красуецца трохпавярховы кафэ-музей “Гасова лямпа”, галоўным элементам дызайну якога служаць звыш 200 газавых лямп. Каля ўваходу сутракае сам вынаходнік лампы Ян Зэг, а яго калега Ігнацій ветліва махае рукой з вакна трэцяга паверха. На апошнім паверсе кафэ ёсць невялікая аглядальная пляцоўка, у куце якой знаходзіцца вялікая газавая лямпа. Калі яе запальваюць уначы, то відаць яе амаль з усіх куткоў Львова. Ветлівыя афіцыянты пад гукі аўтэнтычнай музыкі параяць вам страву на любы густ. А каб кліент не засумаваў, афіцыянт можа зладзіць разнастайныя піратэхнічныя фокусы. Сапраўднае жывое піва тут разліваюць з спецыяльна прывезеных з Германіі піўных бачонкаў. Таму хутчэй купляйце квіток на цягнік Мінск-Львоў, бо піва можа не хапіць на ўсіх.

### У пячорах

**“Alux Restaurant & Lounge”, Мексіка**

Калі вы аблазілі саляную пячору ў Салігорску ўздоўж і ўпоперак, раім хутчэй нацягнуць свой спелеалагічны касцюм і рвануць у Мексіку. Там, усяго ў некалькіх хвілінах язды ад пляжу Кармэн, ёсць падземны бар, у які давядзецца спускацца пры святле свечак. Пераадолеўшы лесвіцу, вы трапіце ў залу, напоўненую сталакцітамі і сталагмітамі. Alux – гэта цэлая сістэма пячор, унутры якіх змайстравалі рэстаран, бар і VIP-лонж. Людзі кажуць, што той, хто вып'е ў пячоры лішні куфаль пеннага напою, здолее ўбачыць міфічных “маленькіх людзей”, якія на думку старажытных майя засяляюць гэтыя падземныя прытулкі з спрадвечных часоў. Таму будзьце пільнымі і не піце лішняга.

Playa del Carmen 9669 км



**Паміж розных сталактытаў ды сталагмітаў добра кульнуць куфаль-другі мексіканскага “цёмнага”, запіўшы яго порцыяй тэкілы “сапраўднай”.**

Сёма, глядзі! Кетцалькоатль надраўся, зараз зноў з аховай задзірацца будзе!

512 км Львів




**Як кажуць, “гасіце люстры”, шаноўныя!..**

Singapore 9000 км




**Замовіць пару капельніц “Жыгуля” ў гэтым бары можна толькі па рэцэпту. вашага ўчастковага лекара.**

1874 км London



**Рухайцеся шпарчэй! Халадзільнік на бары зусім не марозіць!**

Turku 796 км



PUUTORIN VESSA

### У сарціры

**“Puutorin Vessa”, Фінляндыя**

Фінскія прайдзісветы з усяго зробяць грошы. Так, у фінскім горадзе Турку мясцовы музыка Ласэ Лааксанен у 1997 годзе адкрыў рэстаран у памяшканні, дзе з 1933 па 1986 гг. знаходзілася грамадская прыбіральня. Меню і антураж установы ў разумных межах аздоблены “туалетнам” гумарам. “Туалетная” тэматыка прадстаўлена там у выглядзе элементаў дэкору, а таксама бакалаў ў выглядзе... пісуараў. Рэстаран вабіць наведнікаў унушальнай калекцыяй начных гаршкоў. “Puutorin Vessa” часта жартам называюць “першай грамадскай прыбіральняй з правам продажу спіртных напояў”. Водар, які часам прасочваюцца ў залу з кухні, туалетным дакладна не назавеш. Паверце, фінская кухня пахне добра. Часам, некаторыя нашыя бары, што растуць як грыбы пасля забароны распіцця піва на вуліцах, цяжка параўнаць з фінскім барам-туалетам: на подлозе наплёвана, паўсюль валяюцца недакуркі, а каб справіць патрэбу, трэба шукаць платную прыбіральню ў горадзе. Таму хацелась б бачыць у нашай сталіцы больш дабротных піўных устаноў, дзе прыемна адпачыць з сябрамі.




**“Puutorin Vessa” – ідэальнае месца, каб справіць сваю патрэбу як у піве, так і патрэбу, што ўзнікае пасля. Галоўнае не пераблытаць, дзе робіцца наліў піва, а дзе адліў. І патрабуйце адстою пены!**

### На бальнічнай койцы

**“Clinic Bar”, Сінгапур**

Не многія любяць атмасферу бальніц і клінік, так што наўрад ці гэты бар прыйдзецца па густу кожнаму. “Лякарня” – гэта тэматычны бар падобны на шпіталь, які знаходзіцца ў раёне забаўляльных устаноў і гандлёвых цэнтраў горада-дзяржавы Сінгапур. Не дзіва, што архітэктарам гэтага бару быў Дэміен Херст, мастак-фрык, які праслявіўся серыяй работ “жывёлы ў фармаліне”.




У “Клініцы” можна пакаштаваць кактэйлі з прабірак і капельніц, пасядзець у каталцы замест звычайных крэслаў, паляжаць на кушэтцы пад белымі прасцінамі і паскакаць на танцпляцоўцы ў начным клубе “Морфій”. Сам рэстаран выкананы ў стылі аперацыйнай, дзе госці могуць сесці ў залатыя крэслы-каталкі і паесці з сталёвых талерак ў форме нырак. Галоўнае, каб ежа ў гэтым рэстаране была ўсё ж смачней, чым у бальнічнай сталовай.

### Пад гукі ветракоў і бляск сонечных батарэй

**“Club Surya”, Англія**

Калі вы любіце адпачыць з карысцю не толькі для сябе, але і для ўсёй планеты, сядайце на ровар і накіроўвайцеся ў Лондан. Лондан заўсёды быў у цэнтры новых тэхналогій, таму менавіта тут узнік першы ў свеце эка-клуб пад назвай “Surya”. Звонку клуб падобны на цывільны рэстаран, але трапіўшы ўсярэдзіну вы зменіце свой погляд. Плазменныя тэлевізары, якія паказваюць кадры на экалагічную тэматыку, і лядоўні, дзе ахалоджваюцца розныя напоі, працуюць ад сонечных батарэй. Уся мэбля зроблена з другаснай сыравіны. Саўндсістэма клубу сілкуецца ад ветраных турбін. У бары шырокі выбар біялагічнага піва. Тэхніка на кухні таксама працуе ад узнаўляльных крыніц энергіі. А калі вы пачынаеце скакаць на танцполе пад рытмы любімага хіта, то энергія, якая выпрацоўваецца падчас танцаў, ідзе на карысць клуба. Жыльцы прылеглых раёнаў могуць таксама карыстацца лішкамі гэтай энергіі. Так што, у вас ёсць рэальны шанец ўратаваць планету ад экалагічнай катастрофы ды заадно прыемна адпачыць.

# NOIZE MC

## Зараз я праспяваю вам пра Хімкінскі лес!

**<u>За гадоў 10 назад на вялікую колькасць беларускай моладзі мелі значны ўплыў такія гурты як LIMP BIZKIT, SLIPKNOT ды іншыя, што апошнім часам зачасцілі ў Мінск на гастролі. Ды й тут існавала пэўнае кола падобных гуртоў. Напрыклад, былі “Папёнкинз Бэнд”, памятаю “Сок”, былі яшчэ нейкія “Куклы”. Такую музыку і гурты тады мы называлі “мазафакай”. I не хардкор, і, быццам, не рэп. Куплет са своеасаблівай чыткай у адным стылі, прыпеў – у іншым, напрыклад, шыбкі і распеўны. На мой погляд “Noize MC” грае штосьці падобнае да “мазафакі”, і я падышоў паглядзець на гэты гурт (апошнім часам яны надта шумяць у медыях), зацаніць, як яны ўжываю, як сувязь з публікай, а за адно пагутарыць з фронтмэнам “Noize MC” Ванем Аляксеевым, дарэчы, родам са Смаленшчыны.</u>**




**Вокладка саўндтрэка да к/ф “Розыгрыш”, дзе Noize MC сыграў галоўную ролю.**

**– Вітаю, Ваня. Ведаеш, апроч таго, што ВКЛ і Рэч Паспалітая заўсёды біліся за смаленскую зямлю яшчэ з 14 стагоддзя, пасля рэвалюцыі Смаленская губернія была ўсходняй вобласцю Беларускай ССР.**

Я быў у курсе, што гэта вельмі блізка да Беларусі, Віцебск увогуле пад бокам...

**– Пражываючы там, ці адчуваў ты нейкую сувязь з Беларуссю, нейкі беларускі ўплыў, бо яшчэ на пачатку XX стагоддзя ў Смаленскай вобласці паводле перапісу больш за палову насельніцтва складалі беларусы?**

Ну, на ўзроўні мовы, акцэнта. Я ў дзіцячым узросце пакінуў горад Ярцава.

**– Добра, давай пачнем гаворку з пытання, у якім менавіта стылі ты граеш.**

Ёсць словы, якія нішто не азначаюць, як “кросовер”, “ф’южн” і гэтак далей. Нічога падрабязней сказаць не магу. Я чытаю рэп пад самую розную музыку.

**– А на якой музыцы рос, якая музыка паўплывала на станаўленне тваёй уласнай?**

Глабальныя арыенціры – гэта NIRVANA, BEASTIE BOYS, PRODIGY і іншыя калектывы, якія так ці інакш спалучалі хіп-хопавую рытміку і гітары. MOLOTOV, LIMP BIZKIT, CLAWFINGER.

**– Я чаму пытаю. Рэчытатыў пад прымочаную гітару, ламаныя біты, “стэйдж-дайвінг” – на мяжы стагоддзяў існавала дужа разнастайных прыкладаў – “Кирпичи”, “Дай Пистолет”, IFK і шмат іншых, у Беларусі таксама. Была вялікая хваля, але ніхто не быў такім папулярным як ты. Дакладней сказаць, граць такую музыку было не папулярна. Здаецца, што музычнае развіццё Расіі спазняецца гадоў на 10-15. Ты ведаеш тую хвалю?**

Так, ведаю. “Кирпичи” таксама моцна паўплывалі на мяне. Асноўная прычына ў тым, што тады на сусветным узроўні такая музыка была актуальнай, а да Расіі ўсё даходзіць “як да вуткі на сёмыя суткі”. Калі мы пачыналі, груба кажучы, нашую кар’еру, людзі на радыёстанцыях, якія, здавалася б, мусяць у музыцы штосьці цяміць, казалі, што “мы не можам зразумець, гэта ў вас рэп ці рок”. Людзі са шчырымі тварамі заяўлялі гэта ў 2007 годзе. Па-мойму, гэта неяк страшна. А зараз, у рэшце рэшт Расія аказалася гатовай, каб успрымаць гэтую музыку, сапраўдна і масава.

**– Дык можа вы таксама спазніліся крыху?**

Ну, гэта з якога боку пагладзець, спазніліся ці наадварот у свой час. З майго пункту гледжання ўсё абсалютна заканамерна. Я рос на гэтай музыцы, мне гэта па-вар’яцку цікава было, я адчуваў у гэтым энергетыку нейкую сапраўдную, і калі вырас, стаў рабіць тое ж самае, толькі з улікам гэтага досведу.

**– Але бачыш, як такая музыка ў гэты час масава пракаціла.**

Ну, так. Але пры гэтым нельга казаць, што гэта зусім ужо масава пракаціла. Не з’явілася адразу 50 гуртоў, якія граюць штосьці ў гэтым кшталце. Ёсць старыя, ветэраны руху, так бы мовіць, ёсць мы, ёсць нейкія прыклады, але нельга назваць гэта модай, ці спазнелым трэндам.

**– Хто ў вас займаецца фінансавай часткай арганізацыі канцэртаў, выдання плыт і г.д.?**

Я ўвогуле ў адміністратарскую херню не пагружаюся. Гэта на мой погляд вельмі гнілая тэма, якая табе забівае галаву. Гэтым павінен займацца чалавек, які гатовы гэтым займацца. Калі творчыя людзі лезуць у мэнэджмент, атрымліваецца поўнае ражно.

**– Не жадаеш кантраляваць увесь працэс, усю**

Ё.!

**Ваня Аляксееў (больш вядомы як Noize MC) выказвае сваю прынцыповую грамадзянскую пазіцыю**

Месца пад куфаль піва

**сваю справу?**

Ведаеш, на гэтую тэму я меў гаворку з Уладам з "Касты", акурат калі яны цалкам выкупілі сябе з "Рэспект Прадакшн", і ён стаў іх лэйблам. І Улад мне казаў, што "безумоўна крута ўсё кантраляваць, я разумею вялізную розніцу, калі нейкія людзі штосьці робяць за цябе, і калі ты гэта робіш сам, але я займаюся гэтым тры месяцы і ані радку яшчэ не напісаў". І на самой справе я не жадаю ў гэта лезці. Я не хачу душыцца з арганізатарамі, абмяркоўваць райдэры, пераносіць даты канцэртаў па 15 разоў, патрабуючы перадаплату. Карацей, усім гэтым павінен займацца чалавек, які не з'яўляецца творчай асобай.

**– Чаму "Рускі рэп – філіял рускага шансону"?**

Для мяне, ведаеш, рэп заўсёды быў урбаністычнай музыкай, інавацыйнай, з контр-культурным жанрам: як гэта так, узяць кавалак чужога музла, сказіць яго да непазнавальнасці, пакласці на гэта біт, адмаўляючы ўсялякія ноты набубнець усё, што набалела, – гэта здавалася крута. А з цягам часу "рускі рэп" шмат у чым сапраўды трансфармаваўся ў гэткі філіял рускага шансону – тэматычны і нават музычны часам. Культ дробнага крыміналу, адпаведны жарганізм, рамантыка гэтая злодзейская. Мне гэта зусім не блізка, і вельмі не прыемна, што рэп зараз вельмі моцна асацыюецца менавіта з такім ладам жыцця. У рэпе ёсць прыклады, калі гэта робяць людзі, якія маюць падставу аб гэтым казаць, але па большасці гэта брахня. Ну ўвогуле, нажаль, вельмі шмат агульнага, хацелася б мяняць сітуацыю.

**– Пасля канцэрту ў Валгаградзе табе далі 10 сутак за абразу мянтоў са сцэны. Як мянты абыходзіліся з табой пасля арышту? Ведалі яны, што ты вядомы артыст? Як наогул табе сядзелася?**

Вельмі акуратна абыходзіліся. Дзесьці на трэція суткі ім усё стала зразумела, калі ў спец-прыёмнік перавялі, і калі па радыё аб'весцілі. Увесь час пасля пяці сутак у мяне быў толькі адзін сусед, але на самой справе гэта была цалкам іх ініцыятыва. Я б хацеў, каб там было з кім паразмаўляць (смех). Адзін раз хітрым спосабам каньяк перадалі. Гэта была адзіная нелегальная радасць.

Гутарыў
**Русел К. МАРОЎСКІ**

## Даведка

**Noize MC (ён жа Іван Аляксееў) нарадзіўся ў горадзе Ярцава Смаленскай вобласці ў 1985 годзе. У 1997 годзе пераехаў з маці ў Белгарад. Скончыў музычную школу па класу класічнай гітары і агульнаадукацыйную з залатым медалём, два разы займаў прызавыя месцы (першы раз першае месца, другі раз – другое) на абласным конкурсе выканаўцаў на класічнай гітары. Улетку 2007 года зняўся і зрабіў саўндтрэк у фільме беларускага рэжысёра Андрэя Кудзіненкі "Розыгрыш" (прадзюсер – Павел Лунгін). У 2010 заняў 41-е месца ў рускамоўным Forbes, з заробкам 0,9 млн даляраў за 2009 год.**

[прэзентацыя]

НЕДАВНО МИНСКИЙ ПИВЗАВОД “КРИНИЦА” ОТОТМЕТИЛ СВОЕ 35-ЛЕТИЕ. ЗА ЭТО В

# ИМЯ, КОТОРОЕ З





Весь цикл производства пива от начала до конца контролируется с помощью новейшей техники

## Современны полная комп представит

**Говорят, что побывать в ске и не попробовать “Крыніца” – это все равно увидеть белорусскую с цу только лишь одним гла Пивзавод “Криница” явл крупнейшим в Беларуси дущим в пивоваренной о ли страны.**

Именно здесь установили вую в стране линию по р ву пива в ПЭТ бутылку; но ОАО “Криница” первым ларуси освоило произво собственного хмеля; им здесь впервые не только ларуси, но и в СНГ сварил фильтрованное темное пш ное пиво, получившее наз

# Тер

**Продукция ОА популярного с такие извест нефильтрован предприятие**





## …РЕМЯ "КРИНИЦА" ПРЕВРАТИЛАСЬ В ЛИДИРУЮЩЕГО ПРОИЗВОДИТЕЛЯ ПИВА В БЕЛАРУСИ

# …ЗНАЮТ ВСЕ

**…ые технологии, новейшее оборудование, …пьютеризация – без всего этого уже трудно …ь себе крупнейшее в отрасли предприятие**

**…Мин- …пива …о, что …толи- …азом. …яется …и ве- …отрас-**

…пер- …розли- …имен- …в Бе- …дство …менно …в Бе- …ии не- …енич- …вание

"Kult пшеничное темное"; именно здесь впервые… Этот список заслуг пивзавода-флагмана отечественного пивоварения можно было бы продолжать далее. Но в конце-концов, главное то, что за всем этим стояло и стоит воля и целеустремленность руководства завода, усердие и оптимизм его коллектива, имидж предприятия, заработанный за долгие годы его работы и обеспечивающий ОАО "Криница" ведущее положение в пивоваренной отрасли страны.

В результате проведенной реконструкции на сегодняшний день ОАО "Криница" является современным пивоваренным предприятием, позволяющим выпускать до 24 млн. декалитров пива в год. Новейшее оборудование от ведущих европейских производителей, установленное в производственных цехах, высококачественное сырьё, целеустремленность, усердие и оптимизм команды - всё это позволяет производить действительно качественный, востребованный, признаваемый продукт. Кроме того, "Криница" сегодня – это предприятие максимально соответствующее запросам рынка, вкусам и пристрастиям многочисленной армии любителей отечественного пива.

Продукция ОАО "Криница" выделяется своим многообразием. Кроме популярного одноименного пива "Крыніца", предприятию принадлежат такие известные пивные брэнды, как "Александрыя", пшеничное нефильтрованное пиво "Kult", темное "Старажытнае", а также по лицензии предприятие производит королевское баварское пиво "Kaltenberg". Народное признание этих брэндов подтверждено многочисленными наградами на международных конкурсах и фестивалях пива.

Но главное – это не только медали и дипломы от профессиональных экспертов, но, прежде всего, признание со стороны многочисленных любителей пива, доверяющих качеству и вкусу, имя которому – "Крыніца".



**Крыніца**™

### Народная марка

**"Крыніца"** – это стопроцентно белорусский продукт, настоящее народное пиво, в линейке которого на сегодня представлено семь сортов: **"Крыніца Класічнае Люкс"**, **"Крыніца 1 люкс"**, **"Крыніца Экспартнае"**, **"Крыніца Моцнае"**, **"Крыніца Портэр"**, **"Крыніца Прэміум"**. Продукция под брэндом "Крыніца" позиционируется как пиво высокого качества по доступной цене, которое всегда есть в продаже.




# …ритория "Крыніцы"

**…АО "Криница" выделяется своим многообразием. Кроме …одноименного пива "Крыніца", предприятию принадлежат …ные пивные брэнды, как "Александрыя", пшеничное …нное пиво "Kult", темное "Старажытнае", а также по лицензии …производит королевское баварское пиво "Kaltenberg".**




…е" – недавно …на предпри…ный сорт пива, …нежный хлеб…оторого заво…ние и любовь …почитателей. …ли "Старажыт…олучили воз…лаждаться лю…ком, который …е стародав… пивова…еменное …логич…тво.

**Те, кто думает, что пшеничное пиво – это изобретение последних лет и совсем недавно появилось на рынке, сильно ошибаются. Если верить истории, то пшеничное пиво появилось еще 400 лет тому назад. Родиной его традиционно считают Баварию.**

Мало кто знает, что знаменитый "Закон о чистоте пива" 1516 года был направлен как раз против пшеничного пива, пользовавшегося в Баварии широкой популярностью. А дело было так. В год неурожая пшеницы было запрещено использовать в пиве какие бы то ни было злаки, кроме ячменя, имевшего меньшую пищевую ценность, чем пшеница. Исключительной привилегией варить пиво из пшеницы в обход "закона о чистоте" пользовались герцоги Баварские. Они то и создали монополию на производство и продажу популярного пшеничного пива по хорошей цене на всей территории Баварии, что приносило колоссальные доходы царствующему дому на протяжении двух веков.

Только в 1761 году был издан указ, который не ограничивал производителей пшеничного пива: его позволяли варить пивоварням, которые принадлежали аристократии и монастырям.

Однако в начале XIX века спрос на пшеничное пиво стал падать, уступая пальму первенства традиционному баварскому темному пиву, которое варили более мелкие "народные" пивоварни. И только кое-где в Германии и Фландрии горсть пивоваров продолжали варить своё любимое пшеничное пиво.

Возрождение интереса к пшеничному пиву произошло в 60-х годах прошлого века, когда оно вновь стало стремительно набирать популярность. Одна из причин тому – изобилие продукции пивоваренных корпораций. Популярный лагер, выпускаемый пивными гигантами, постепенно стал терять свою индивидуальность. Нефильтрованное же пшеничное пиво по-прежнему сохраняет свою самобытность и оригинальность вкуса.



[бірманія]

**Ці ведаеце вы, што піва можна не толькі піць. Ёсць маса альтэрнатыўных спосабаў, як атрымаць асалоду ад пеннага напою. Як выкарыстаць піва "па-іншаму"?**

# Невядомыя якасці ПІВА

**Ці ведалі вы, што першы напісаны ў гісторыі кулінарны рэцэпт быў рэцэптам піва? Ці тое, што піва стаіць на другім месцы па папулярнасці ўжывання пасля гарбаты? А як наконт таго, што піва нашмат менш каларыйны напой, чым сухое віно ці кока-кола? І наогул, менш калорый утрымліваецца толькі ў мінералцы, гарбаце і каве. Можна пералічыць шмат фактаў датычна піва, пра якія вы нават не мелі ўяўлення. Таксама факт, што існуе маса іншых спосабаў яго выкарыстання.**



## АЧЫШЧАЛЬНІК МЭБЛІ

Яшчэ адзін варыянт карыснага выкарыстання піва, якое засталося пасля бір-паці. Яно зможа даць цудоўны выгляд вашай скураной мэблі. Змачыце піўком кавалак тканіны і шаруйце мэблю. Эфект: гэта ачысціць і трохі адновіць колер. А пасля прайдзіцеся іншай вільготнай анучай, каб прыбраць ліпкасць паверхняў.



## ПІЎНЫ ЛЁД

Не любіце цёплага піва? Гэты спосаб дапаможа вокамгенна ахаладзіць піва, не чакаючы астуджэння ў халадзільніку. Разліце гатункі піва, якія найчасцей за ўсё п'еце, у розныя адсекі формачкі-лядоўніцы і пастаўце іх у лядоўню. Пасля замярзання бярыце ільдзінкі адпаведнага гатунку і кідайце ў куфаль. Ёсць і іншы варыянт – ужываць яго як марожанае.



## ПІЎНАЯ МАСКА

Ад піва скура становіца аксамітнай. У прынцыпе, у якасці ласьёнаў можна ўжываць піва ў чыстым стане. Але ёсць пара рэцэптаў, якія існуюць ужо не адно стагоддзе.
Для прыгатавання маскі для тлустай скуры вам спатрэбіцца 1/3 шклянкі піва, сок паловы лімона і 1 чайная лыжка мёду. Мікс гатоў. Нанесці на твар 10 хвілін.
Для маскі на сухую скуру трэба 2 сталовых лыжкі піва, плюс 1 чайная лыжка аліўкавага алею і 1 чайная лыжка мёду.
А для больш старэйшых нашых чытачак існуе амаладжальная маска для разгладжвання маршчын. Трэба 1 сырая бульбіна, нацертая на дробнай цёрцы, 3 сталовыя лыжкі піва і 1 яечны жаўток. Добра змяшаць і нанесці на 10-15 хвілін, потым змыць прахалоднай вадой. Муж будзе прыемна здзіўлены, калі ўчуе ад вас знаёмы пах.



## ЗАЛАТЫЯ ЦАЦКІ

Калі вы маеце сентыменты да "драгметалаў" і розных бранзалетак ды кальe, вам не перашкодзіць наступная парада. Для аднаўлення бляску любых залатых цацак, змачыце тканіну дастаткова колькасцю піва, і мякка шаруйце. Потым пратрыце іншай чыстай тканінкай. Увага: гэты метад не пасуе для цацак з каштоўнымі камянямі – пад ляжачы камень піва не цячэ.






## ПЧОЛЫ-П'ЯНТОСЫ

Кожны з нас не раз сутыкаўся з сітуацыяй, калі на пікніку летняй парой варта толькі адкаркаваць бутэльку піва, як налятаюць пчолы, восы ды іншыя паласатыя трутні, ласыя да халяўнага піўка. Наступным разам, на летнім адпачынку на прыродзе не скардзіцеся на пчол, бо яны таксама любяць піва. Проста, наліце піва ў якую-небудзь талерку, пастаўце яе дастаткова ўбаку ад месца бір-паці, і пчолы ўвесь час будуць там бултыхацца, не перашкаджаючы вам.







## 2 У 1: ПІЎНЫ ШАМПУНЬ І КАНДЫЦЫЯНЕР

Вядома, што з піва таксама выходзіць адменны шампунь, які добра ўздзейнічае на валасы, спыняе выпадзенне, умацоўвае іх, вяртае здаровы бляск і эластычнасць. Існуе шмат розных рэцэптаў, але калі гэта для вас напружна, дастаткова проста нанесці піва на валасы пасля мыцця, і папрацаваць рукамі, як са звычайным шампунем. Пасля змыць цёплай вадой і – "хэд'н'шолдэрс" адпачывае!



## ПІЎНАЯ ВАННА

Клеапатра любіла прымаць ванну з малаком. Але прапрапрапрабабулі сучасных ладных дзяўчынак ведалі, што менавіта піва вельмі дабратворна ўплывае на скуру твара і цела.
Яшчэ ў 1541 годзе нейкі Ёган Заўгфрус, прыдворны аптэкар герцага Вільгельма Баварскага, напісаў свой "Трактат пра піва". Ён раіў жанчынам уціраць піўную пену ў скуру твара і грудзёў. І насамрэч, у даўніну жанчыны любілі нашмароўваць півам грудзі. Яны меркавалі, што гэта робіць іх больш пышнымі і пругкімі. Можа таму баварскія дзяўчыны вызначаюцца сваёй пышнагрудасцю?
Сёння мы разумеем, што піва дзейнічае так, дзякуючы амінакіслотам, мінеральным рэчывам, ферментам, вітамінам складу B і піўным дрожджам. А за апошнія пару гадоў у Германіі, Аўстрыі і Чэхіі распачалі працаваць піўныя SPA-курорты, з усталяванымі піўнымі працэдурамі (http://www.hotel-goethe.cz/ru/turistika/pivnice-ve-skale-chodovar). Але, калі вы не маеце часу альбо грошай на курорты, то вось вам спосаб, як гэта робяць у Чэхіі. Дадайце 3-4 бляшанкі піва ў гарачую ванну (дарэчы, цёмнае піва дзейнічае лепей), і рэлаксуйце 20 хвілін. Адчуйце, як цэлебныя якасці піва амаладжваюць скуру і павялічваюць яе эластычнасць. Пасля не забудзьцеся прыняць душ.

UNITED COLORS OF BEER. vol. 4

# Піва, якое нас здзіўляе

Месца пад куфаль піва

**Невычэрпная фантазія сусветных майстроў хмелю і соладу сапраўды не мае межаў. Чаго толькі не прыдумаюць міжнародныя ўмельцы, каб прымусіць набыць свой тавар. Тут вам і незвычайны смак, і агрэсіўная рэкламная палітыка, і стракаты дызайн упакоўкі і новая кідкая назва.**

Мы працягваем знаёміць нашых чытачоў, а заадно і айчынных півавараў з дасягненнямі іх замежных калег і прадстаўляем вашай увазе чарговую падборку незвычайных гатункаў. Як казаў калісь М.Булгакаў: "За мной, мой чытач, і толькі за мной, і я пакажу табе такое піва!".

Куды сёння заліваць будзем: у ката ці ў сабаку?

## 1. "Летят утки…"

Шмат хто з вас бачыў мультфільм "Котопёс", дзе галоўны персанаж напалову сабака, напалову кацяра. Штосьці падобнае зварылі й бровары з гораду Фармвіл, штат Паўночная Караліна. Называецца іх прадукт "Качка-Трус" (The Duck-Rabbit). Уся справа ў малюнку на этыкетцы: у цвярозым стане чалавек глядзіць на яго прама і бачыць звычайную качку. Але з кожным выпітым куфлем качка пачынае падкракваць, і калі ўжо цела прымае гарызантальнае становішча, то птушка пераўтвараецца ў труса – пэўны знак, што на сёння хопіць.

The Duck-Rabbit Craft Brewery
The Duck-Rabbit MILK STOUT
THE DARK BEER SPECIALIST

## 2. «Гарбата! Я сказаў гарбата!»

Незвычайны спосаб каваперацыі паказалі дзве, здавалася б, антаганістычныя кампаніі – чайная і піўная. Іх сумеснае прадпрыемства атрымала назву "Mateveza" (Mate + Cerveza). Яны здолелі аб'яднаць арганічную парагвайскую гарбату матэ з шэрагам гатункаў хмелю. У выніку атрымаўся цудоўны напой, які танізуе як матэ і ў той жа час плаўна накрывае як старое добрае піва. Асобым шыкам лічыцца піць яго не з бакалаў, а з калебасаў, мерна пацягваючы праз бамбіллю.

MateVeza
naturally caffeinated
Yerba Mate IPA
Organic India Pale Ale Brewed with Yerba Mate
USDA ORGANIC

## 3. "Кропля піва забівае каня"

У Нямеччыне распрацавалі піва, адным з кампанентаў якого з'яўляецца нікацін. Аўтары сцвярджаюць, што ўжыванне такога піва адбівае ахвоту паліць. Аднак медыкі выказваюцца не зусім аптымістычна. Маўляў, гэта тое ж самае, што змагацца з гераінам, перасаджваючы нарkotаў на кокс. Аднак заядлыя курцы толькі за. У барах, дзе паліць забаронена, гэтае піва вельмі дарэчы. Асабліва ў зімовы перыяд, калі каб пасмактаць сваю любімую соску, яны вымушаныя марозіць свае косці на холадзе. А так – выпіў і і запаліў адначасова.

NICO SHOT
12 FL OZ (354 ml)
NICOSHOT

## 4. Па-студэнцку

Безумоўна, усе памятаюць радкі з "Новай зямлі" славутага нашага песняра Якуба Коласа "Калі навука пойдзе туга, паможа бацькава папруга". А вось у Бельгіі норавы не такія жорсткія. Там карыстаюцца народнымі сродкамі. Кампанія «De Biertoren» з горада Кампенхаут зварыла нават адмысловы гатунак – "Campus". Мясцовыя студэнты вельмі расхвальваюць гэты напой. Дзве-тры бутэлечкі ўвечары перад экзаменам для замацавання ведаў, і ніякіх шпор непатрэбна. Матэрыял проста ад зубоў адлятае. Вось ужо дзе сапраўды "ад сесіі да сесіі жывуць студэнты весела".

Campus

Эх, пивом душу не обманешь!.. Плесну-ка я водочки-с.

## 5. Па-дысідэнцку

На піўзаводзе "Deschutes Brewery" варацы звышарыгінальнае піва "The Dissident". Смак у яго кісла-салодкі, а колер – чырвоны. Уявіце сабе, заходзіць які-небудзь Букоўскі альбо на худы канец Салжаніцын у паб, замаўляе бутэлечку "The Dissident" і сумуе па Радзіме. А перабраўшы, ідзе пісаць чарговы "пасквіль" на дзеючую ўладу.

the dissident

Варушы лапамі, Пятровіч! Усё піва разбяруць!..

## 6. Йеці

Аматарам незвычайнага і паранармальнага спадабаецца прадукцыя кампаніі "Great Divide Brewing Company" - новая лінейка гатункаў "Yeti". Магутнасць у гэтых "снежных чалавекаў" ад 9,5% да 12,2%. Так што ўжываць яго трэба вельмі акуратна, бо лёгка можна дапіцца да стану, калі перад вачыма пачнуць бегаць сапраўдныя йеці.

CHOCOLATE OAK AGED YETI
Imperial Stout
GREAT DIVIDE BREWING CO

[мінуўшчына]

## Гісторыя старажытнага п'янства і разгільдзяйства



**(Працяг. Пачатак у №1(3) – 5(7) за 2010 г.)**

# ПОРТЭР ЯГО ВЯЛІКАСЦІ

## "Выдумка гэта карэннем сваім пранікае ў княжанне Вітаўта ў годы найвысшага ўздыму Княства Вялікалітоўскага..."

**За гэтыя талеры ў карчме можна было гудзець цэлыя выходныя.**

"Выдумка гэта карэннем сваім пранікае ў княжанне Вітаўта ў годы найвысшага ўздыму Княства Вялікалітоўскага..." – сказаў неяк Мікола Гусоўскі і, сербануўшы піўка, пачаў расповед рымскаму папе Льву X пра традыцыі і байкі беларускага палявання. Так звычайная сяброўская размова над піва сталася пачаткам вялікай працы нашага старадаўняга пісьменніка над творам вядомым зараз як "Песня пра зубра". Магутны зубр – сімвал нашага краю стаў вядомы ва ўсёй Еўропе і даў назву добраму гатунку піва, што і дасюль варыць берасцейскі бровар... Ці то спачатку была назва піва, а пасля яна перайшла на жывёлу? Дакладна невядома... Але гэта лірыка, ці, нават, калі быць больш дакладным – ліраэпіка. А праўда была такой – піва ў Вялікім княстве любілі, пілі і варылі!

З тымі толькі акалічнасцямі, што варылася піва без дзяржаўных стандартаў, не мела 100% вызначанай рэцэптуры і не выраблялася ў прамысловых маштабах у адным месцы. Бровары былі невялікімі і задавальнялі патрэбы сям'і, вёскі, шляхецкага двара ці ў лепшым разе мястэчка (тагачаснага аграгарадка). Даўнейшыя піваварі не ведалі ўсялякай хімічнай трасцы, таму і глюкозна-фруктозных сіропаў у піва не дадавалі. Ячмень, солад, хмель, крынічная вадзіца – вось вам і піва тых часоў, калі беларусам можна было ехаць адпачываць на Балтыйскае ці Чорнае мора не перасякаючы межаў уласнай краіны.

Бровары і вінакурні былі пашыранай з'явай па ўсіх ваяводствах. Можна смела сказаць, што вытворчасць піва была важнай галіной народнай гаспадаркі старажытнай шляхецкай рэспублікі. І як за ўсімі важнымі справамі, за піваварэннем пільна сачыла дзяржава. Вытворцы піва сплочвалі спецыяльны падатак – чапавое, за права вырабу легальнага алкаголю. За тое і дзяржава са свайго боку апекавалася піваварамі, беручы іх пад апеку і гарантуючы абарону ад рознага кшталту злыдняў-алкаголікаў. Так, у Статуце 1588 г. у 10-ым артыкуле 10-га раздзелу вызначаўся значны штраф за паруб чужых хмельнікаў – ад 3 да 12 рублеў грошай, што сведчыць пра немалую важнасць і распаўсюджанасць хмеляробства, а значыць і піваварэння ў азначаны час.

Карціна не будзе поўнай, калі не паведаміць пра тое, што негледзячы на апеку дзяржавы, тады (як і цяпер) многія ліцвіны імкнуліся да бескантрольнага – і праз тое больш прыбытковага – вырабу піва. Той жа Статут у артыкуле 33-ім 14-га раздзелу "Пра таемныя корчмы" – паведамляе, што паўсюдна як у ВКЛ, гэтак і ва ўсёй Рэчы Паспалітай стала багата корчмаў таемных, то бок нелегальных, падпольных. Канечне ў ВКЛ "сухога закону" як ў ЗША 20-30-ых ці СССР 80-ых г. XXст. не было, але падпольныя шынкі ў абыход волі вялікага князя продкі нашыя арганізоўваць любілі і ўмелі! Ясная справа, што грошы ад такога занятку кладіся без аніякай выплаты падаткаў сабе ў кішэню, што не магло не турбаваць княскую адміністрацыю ды баярства на месцах. Праз тое, падпольныя шынкі часцяком зачыняліся праз рэйды пільных вялікакняскіх АБЭЗаўцаў, рыштунак і трункі кафіскоўваліся, а самагоншчыкі штрафаваліся на некалькі дзясяткаў базавых велічынь.

Пры гэтым легальныя піўнухі працавалі спакойна і ўтрыманнне іх нават заахвочвалася.

Жыхары княства мелі выдатную магчымасць нарэзацца, як тады казалі "да страты талерантнасці", у стадолах пры гасцінцах, у местачковых і гарадскіх корчмах, у прыдарожных шынках. Што да апошніх, то іх мелася ў неабходнай колькасці паўсюдна – можна смела сказаць, што прыдарожны сэрвіс ў ВКЛ быў не раўня нашаму – зараз можна адмахаць 100 кіламетраў па бальшаку і не знайсці аніводнага аб'екту гэтага самага сэрвісу, а раней на любым больш-менш значным раздарожжы, каля мастоў і пераправаў, каля вёсак і замкаў заўсёды мінака гасцінна вітала карчма з каларытным яўрэем-гаспадаром, які разбіўся б у ляпёху, але цвярозага б не выпусціў!

А якія былі гэтыя самыя корчмы! Любата адна – тут і пешаму і коннаму былі радыя, пры карчме звычайна меўся гатэль для госця і стайня для яго капытнага транспарту. Распаўсюджанай была сістэма "усё ўключана" – гэта значыць і выпіўка, і дзеўкі, і бойка, і ў выніку на ранак – хворая галава і страта ўсяго майна з канём разам. Для многіх тагачасных вандроўнікаў далёкі шлях ад роднага ганку заканчваўся ў першай жа карчме, менавіта праз немагчымасць мінуць кармы жыхары княства і былі дамаседамі, а зусім не з-за кансерватыўнасці і любові да свайго котлішча, як памылкова мяркуюць некаторыя задужа цвярозыя даследчыкі. Дарэчы, нашыя корчмы спынялі не толькі сваіх падарожных! Малавядомы




**Сустрэча шаноўнага шляхецтва напярэдадні прафесійнага конкурса "Куфаль Княства–1510". Лепшым гатункам тады было прызнана "Мірскае Дубельтовае", прызам стаў трайны падатковы збор.**




факт, што славуты расійскі вандроўнік Афанасій Нікіцін насамрэч ні хадзіў ні за якія “тры моры”, а проста выбраўшыся, з непрытульных абшараў Масковіі дабраўся да першай карчмы ў памежным Смаленскім ваяводстве ВКЛ і засеў там на пару гадоў. Менавіта там пад уздзеяннем гасціннасці і піўных пароў напісаў свае “падарожныя” нататкі. Накрапаўшы з раніцы новую байку “вандроўнік” адразу чытаў яе заўсёднікам, а карчмар толькі і паспяваў падносіць яму чарговы куфаль, каб прамоўца прамачыў засмяглае горла – “Афанасій, піва!”. Так з’явіўся вядомы сучасны расійскі брэнд, але рэальная гісторыя нажаль забылася.

Колькі такіх гісторый маглі б нам распавесці тагачасныя піўныя, каб дажылі да нашага веку, бо самі яны былі жывой гісторыяй! Назвы корчмаў ВКЛ у пісьмовых крыніцах у большасці не захаваліся, але тыя што дайшлі да нас могуць шмат што распавесці дасведчанаму чытачу – “Карчма імя 60-годдзя перамогі пад Грунвальдам”, Шынок “Тры паходы Альгерда на Маскву”, Таверна “Астатні грош”, вось толькі некаторыя з іх, а ў кожнай і гонар нацыі і лёс прыватнай асобы.

Якое ж піва пілі ў гэтых корчмах? Акрамя стандартных гатункаў піва “Вялікакняскае светлае” (піва Яго Светласці) і “Гаспадарскае моцнае” (піва Ягамосці), пракідаліся і мясцовыя гатункі “Манастырскае безалкагольнае” (даходзіла да 10%), “Замкавае”, “Местачковае разбадзяжанае”.

Ведалі нашыя продкі і кактэйлі, ў склад якіх, абавязкова на пачэсных правах уваходзіла піва. Так папулярнасцю карысталася кактэйль – “Вальны сойм” (піва, медавуха, мальвазія, гарэлка і ўсё, што ёсць на стале, п’ецца залпам у вялікай кампаніі з гучным крыкам). Кактэйль “Ліберум вета” – складаўся з трох частак (піва халоднае келіх, гарэлка – чарка, піва цёплае келіх) – піўся кактэйль адзін раз на вечар часцей напрыканцы бяседы, бо пасля яго звычайна прамоўца валіўся пад стол.

Самым непаліткарэктным, але праз тое дужа папулярным, асабліва за часамі працяглых і цесных стасункаў з Лівонскім Ордэнам, быў напой “Крыжачок”. Так, менавіта ён! Але пачакайце салодка аблізвацца, ўзгадваючы аднайменны пладовавыгадны вінчык. Нічога агульнага з ім катэйль не меў, а ўяўляў з сябе наш сучасны “ёрш”, які піўся звычайна з шалома забітага (ці палоннага) рыцара-крыжака – адсюль і назва. Гавораць, пасля кактэйлю самы страшны вораг падаваўся маленькім і бясшкодным – у дадзеным выпадку злосны і жудасны крыжак станавіўся маленькім і бясшкодным крыжачком. Менавіта гэты напой, ужыты ўсімі без вынятку жаўнерамі харугваў ВКЛ, і быў тым сакрэтным чыннікам, які дапамог вялікаму князю Вітаўту ў 1410 г. пад Грунвальдам перамагчы звышбаяздольнае, але няправільна пахмеленае войска Ордэна!




Напачатку рэцптура “Крыжачка” захоўвалася ў таямніцы, як рэч, што мела найвышэйшую стратэгічную каштоўнасць і ад якой наўпрост залежала баяздольнасць войска і абарона краіны. Ясная справа, што манаполію на выраб мелі бровары, што працавалі на “абаронку” ВКЛ. З часам з-за надзвычайнай папулярнасці напой стаў агульным здабыткам. Грунтоўнае вывучэнне замежных нямецкамоўных крыніц, сведчыць пра тое, што “крыжачок” знайшоў удзячных дэгустатараў і ў самім ордэне, праўда там ён быў вядомы пад трошкі іншай назвай - “дэр Ёрш”.

Часы Вітаўта даўно мінулі, а легенда пра “Крыжачок” разыйшлася так шырока па свеце, што ўрэшце увасобілася ў сінематографе, дзе стала “цудадзейным напоем друідаў” у вясёлай байцы пра дзвух галаў - Астэрыкса і Абелікса, што глынуўшы па глытку зелля шкуматаюць рымлянаў як Тузік грэлку, ці інакш, як ліцвіны крыжакоў у слаўным 1410-ым...

Піва і вайсковыя перамогі ВКЛ ішлі побач. Не толькі Грунвальдская бітва, але і Аршанская, што абылася 8-га верасня 1514 г. не абыйшлася ўплыву без пеннага напою. Як стала дакладна вядома з успамінаў удзельнікаў тых падзей, запісаных напярэдадні падрыхтоўкі артыкула, гетман Канстанцін Астрожскі з бліжэйшымі дарадцамі увечары 7 верасня некалькі гадзін запар напружана абмяркоўваў тактычныя крокі войска ВКЛ у будучай бойцы, а пасля, так нічога асаблівага не прыдумаўшы, так моцна прыклаўся да чаркі, што меў на ранак жудасны адхадняк... Выратаваць палкаводца магло толькі піва, а бліжэйшае піва было ў Оршы, якой як раз пагражала 80-тысячная маскоўская раць. Планы ў разумнай, але цяжкой галаве гетмана выспелі самі сабой – бараніць горад на Дняпры ўсімі сіламі... Смага плюс вайсковы талент – і ў выніку бліскучая перамога 30-тысячнага войска княства на маскоўскай арміяй. А пасля быў заслужаны банкет і піва лілося ракой... У лінейцы Аршанскага бровару пасля гэтага, з’явіліся на свет спецыяльна для Расіі гатункі “Астрожскі Гетман экспартнае”, ці “8-ае верасня цёмнае”.

Піва дапамагала працаваць, ваяваць, прыносіла немалы прыбытак і натхняла найлепшых сыноў княства на творчасць. Не адзін Гусоўскі, дзякуючы піўной размове стварыў шэдэўр новалацінскай літратуры. Піўным духам патыхае і ад такой магутнай постаці адраджэння як Скарына! Не адмаўляем Скарына быў друкаром, а не піваварам, але дзе ён атрымаў сваё пакліканне да кнігавыдавецтва, дзе яго варштат адціснуў першыя літары? У чэскай сталіцы Празе! У горадзе славутай піўной краіны... Францішак быў патрыётам і пасля вярнуўся ў ВКЛ, несучы свет кніжных ведаў. Жыў у Вільні, ездзіў у Маскву і Каралявец. Але напрыканцы жыцця яго ізноў паклікала Прага, і мяркуем ні чым іншым, як куфалем свежага халоднага піва...

Ішоў час, уладары змянялі адзін аднога, Альгердавічы, Ягелоны, Вазы, Сасы, мяняліся абрысы дзяржавы, нараджаліся і паміралі людзі, але ў кожным новым стагоддзі як і некалі раней, жыхары вялікага княства у велічных палацах, шляхецкіх маёнтках, прыдарожных шынках і маленькіх сялянскіх хатах аднолькава садзіліся за сяброўскі стол каб памачыць вусы ў белую пену і адчуць смак піва.

**Месца пад куфаль піва**



**Шкляніцы, палкі, кубкі, трубкі – традыцыйны посуд для ўжывання піва часоў Вялікага Княства.**

**А па першым куфлі трэба паўтарыць, маладое піва заўсёды шуміць... Вып’ем другі куфаль маладога піва за дзяўчатак нашых, каб жылі шчасліва. Трэці куфаль вып’ем за нас, за малойцаў, каб свяціла сонца ў наша ваконца...**

**Першы куфаль піва вып’ем за сустрэчу, вып’ем за сустрэчу, за цудоўны вечар!**



**Сябры спяваюць шлягер на словы Скарыны ў карчме “Пуцяціна Камяніца”.**

# Куфаль за нашу страву!



**Алесь Белы, даследчык беларускай кулінарыі**




**<u>Алесь Белы займаецца вывучэннем гісторыі і спрабуе рэканструяваць традыцыйную кулінарыю і гастранамію Беларусі. Ён з’яўляецца аўтарам і укладальнікам кніг “Наша страва”, “Энциклопедия белорусской кухни” і “Belarusian Cookbook”.</u>**

“Наша страва” – першая спроба вярнуць да жыцця традыцыйныя стравы беларусаў, яна можа стаць сапраўдным “піянерам” адраджэння аутэнтычнай кухні Беларусі. Кніга выйшла ў серыі “Кнігарня Нашай Нівы” у 2008 годзе. Выданне не толькі распавядае пра стравы і спосабы іх гатавання, але і апісвае гісторыю іх з’яўлення.

У інтэрв’ю нашай газеце Алесь распавёў, што менавіта “цікаўнасць да піўной культуры стала лакаматывам, які падштурхнуў яго да даследавання беларускай кулінарыі.” Гісторык кажа, што “нарыс “На хвалу піву” быў першым з серыі тых нарысаў, якія потым перараслі ў праект “Наша страва” і іншыя праекты.”

**– Ці збіраецеся Вы зрабіць такую кнігу, якая бы тычылася беларускіх алкагольных напояў?** – з надзеяй пацікавілася наша газета.

– На сённяшні дзень – гэта выключна пытанне да выдаўцоў. Я зараз прынцыпова не гатовы пісаць у стол. У мяне ёсць пэўныя распрацоўкі, якія тычацца алкагольных напояў, і калі б знашоўся зацікаўлены выдавец, я думаю, што я адносна хутка змог бы зрабіць такую кнігу, – узрадаваў нас Алесь.

Што ж, чакаем ад аўтара новых і смачных аповедаў!

[спорт]

# IX НОРАВЫ

# Шаолiньскi баскетбол

Вунь гэты мне на нагу наступіў

Трымайце мяне сямёра!

Ты, лупаты, а ну сюды!

Паспрабуй кулак дракона!

**Сапраўдным пабоішчам скончылася таварыская сустрэча зборных Кітая і Бразіліі.**

У рамках падрыхтоўкі да Азіяцкіх гульняў баскетбалісты Паднябеснай пры падтрымцы родных трыбун накастылялі супернікам па самае нельга. Ужо на 66-й секундзе сустрэчы завязалася патасоўка. Слова за слова, і тут пачалася такая масакра – на пляцоўку выбеглі і запасныя гульцы, і трэнеры, і нават тэхперсанал. Кітайцы прымянілі на практыцы ўсё, чаму з дзяцінства навучыліся ад Бруса Лі і Джэкі Чана. У ход пайшлі не толькі кулакі, але і ногі, хоць гэта і забаронена правіламі баскетбола. Не дапамагла бразільцам нават іх хваленая капуэйра – на пляцоўцы ў той дзень дамініравала кунгфу. Толькі з дапамогай паліцыі ўдалося ўціхамірыць байцоў, хоць гледачы і патрабавалі працягу.

Пасляматчавыя разборкі былі таксама жорсткія – Асацыяцыя баскетболу Кітая ўжо прынесла прабачэнні Бразіліі, а сваіх гульцоў дыскваліфікавала на месяц. Прычым забарона тычыцца не толькі матчаў, але і трэніровак. Бо відавочна, што яны замест таго, каб мяч у кошык кідаць, адточваюць удары і тэхніку дыхання.

## О, СПОРТ, ТЫ – BEER!

**Калі вы не вызначаецеся асаблівымі фізічнымі дадзенымі, не можаце прабегчы стометроўку меньш за 10 секунд і не валодаеце фінтамі Ранальдзіньё, не адчайвайцеся. Дарога ў вялікі спорт не закрыта.**

Жыхар Тбілісі Аўтандзіл Бурджанадзэ даказаў, што дух спаборнасці з любога чалавека можа зрабіць спартсмена.

На чэмпіянаце па хуткасным выпіванні піва джыгіт усталяваў новы сусветны рэкорд, жахнуўшы 3 куфлі ячменнага нектару ўсяго за 16,87 секунд. Інфармацыя пра вынік Аўтандзіла ўжо накіраваная ў Кнігу рэкордаў Гінэса.

Эх, а мне да рэкорда адной секунды не хапіла!

# Гульня не па правілах

Малайца, Эва, сапраўдная "нага бога"!

**Першыя асобы, каб падтрымліваць сябе ў належнай форме, практыкуюць заняткі спортам.**

Некаторыя ганяюць шайбу, хтосьці нераўнадушны да тэнісу дзюдо. А вось прэзідэнт Балівіі Эва Маралес палюбіў футбол. Апошні матч каманда Дома ўраду, за якую выступае кіраўнік Балівіі, праводзіла супраць палітычных апанентаў – каманды мэрыі Ла-Паса. Гульня была вельмі прынцыповай і адзначылася вялікай колькасцю парушэнняў. З абодвух бакоў выдалілі аж па 2 чалавекі. Але асаблівай жорсткасцю адзначыўся сеньёр Маралес. Пасля падкату абаронцы праціўніка Даніэля Густава Картахены прэзідэнт не вытрываў і з усяе моцы ляснуў каленам у пах. Ды так, што небарака яшчэ доўга поўзаў па траве, скруціўшыся ад болю. Арбітр маўчаў, нібыта вады ў рот набраўшы. Мала таго, пасля матчу ахоўнікі намагаліся арыштаваць Картахену за напад на прэзідэнта. Толькі ўмяшальніцтва мэра дапамагло вырваць футбаліста з кіпцюроў балівійскай "ахранкі". Што ж тычыцца самога матчу, то скончыўся ён унічыю – 4:4. Карацей, перамагла дружба!

**Арташэс Д'АРТАНЯН**

1 2 3

Амаральны ўчынак Эва Маралеса

## Хто ачарняе Майка Тайсана?



Супраць славутага накаўцёра падалі іск на 25 мільёнаў даляраў. Адзін хітры рэпарцёр вырашаў зрубіць бабла палёгкаму і абвінавацію Майка ў тым, што ён нібыта ўдарыў яго кулаком і зламаў фотаапарат. Усім вядома, што гэта поўная лухта, бо раней пракурор ужо закрываў справу з-за адсутнасці доказаў. Але нават калі ўлічыць, што Тайсан сапраўды даў у бубен прыставучаму папарацы, то сума ўсё роўна нерэальная. Нават тыя, хто здолеў пратрымацца супраць жалезнага Майка больш за раўнд, не прасілі такіх касмічных ганарараў. А тут адзін слабенькі тычок у пысу – і ты Ракфелер.



# Свята адмяняецца

**Выйграўшы ў мінулым годзе Бундэслігу і дайшоўшы да фіналу Лігі чэмпіёнаў, сёлета мюнхенская "Баварыя" паказвае пакуль няўдалыя вынікі. Пасля васьмі тураў толькі 12-е месца. Відаць, расслабіліся хлопцы. Што толькі ні казаў трэнер Луі ван Галь сваім падапечным, як толькі іх ні матываваў, – усё дарма. Апошняй кропляй стала паражэнне 0:2 ад заклятага ворага – дортмундскай "Барусіі".**

Не плач, Франак, мы лепей у кофешоп сходзім...

Вядомы сваім эксцэнтрычным характарам галандзец пайшоў на скрайнія меры. Пасля кансультацый з Саветам дырэктараў было вырашана адмяніць традыцыйны штогадовы візіт каманды на "Актобэрфэст", а замест гэтага правесці трэніроўку. Такога ўдару не чакаў ніхто, нават Галусцян у "Газмясе" на такое не адважыўся б. Кожны сапраўдны мюнхенец адкладае ўсе справы, каб на некалькі дзён адарвацца ды заліць лейку свежым "Паўлянэрам". Колькі ні прасілі гульцы злітавацца, ван Галь быў няўмольны. Ці дасць такая педагогіка плён, пакажуць наступныя туры, а пакуль футбалісты вымушаны наматваць кругі на трэніровачнай базе, праклінаючы сатрапа-трэнера.

# Узнагарода знайшла герояў







**Адзін з афіцыйных спонсараў зборнай Іспаніі па футболе севільская піваварная кампанія "Cruzcampo" нарэшце выканала ўмовы кантракту, згодна з якімі кожны футбаліст у выпадку перамогі ў Паўднёвай Афрыцы атрымаў столькі піва, колькі ён важыць.**

У выніку чэмпіёнам свету абламілася ажно 1734 літры! Цікава, што да пачатку мундыялю агульны аб'ём складаў усяго 1686 літраў. Ласыя да піва іспанцы з моманту перамогі паспелі набраць 48 кг на ўсю каманду. Самым скварным аказаўся Фернанда Льёрэнтэ, які да чэмпіянату важыў толькі 88 кг, а зараз 94,6 кг. Атрымоўваецца, за тры месяцы форвард набраў цэлых 13 бутэлек. Цяпер жа, з такой колькасцю халяўнага піва пра пахудзенне можна і не марыць. Галоўнае, каб ныркі не падвялі.

Cruzcampo



*Андрэй Арамнаў:*

# "Бутэлечку раніцай, у абед, пазней яшчэ адну..."

**Нядаўна ўся спартыўная прэса стракацела загалоўкамі пра Андрэя Арамнава, аж заліваючыся ад зларадства: "Арамнава зноў тармазнулі дайшнікі", "Арамнаў чарговы раз папаўся бухім", "У крыві чэмпіёна знайшлі сляды шмалі". Аднак не ўсё тое, пра што пішуць шчаўкапёры, праўда.**

Сам "віноўнік" доўга адмаўляўся ад сустрэч з пісакамі, аднак у выніку здаўся. У інтэрв'ю газеце "Звязда" ён расставіў усё на свае месцы. Як аказалася, у тым злашчасным "касяку" ніякай марыхуанай не пахла: гэта быў легальны яшчэ ў той час "спайс" (курыльная сумесь). А наконт лішніх праміляў у крыві, Андрэй паведаміў літаральна наступнае: "Я за трэніроўку магу падняць трыццаць тон. І канкрэтна мне піва дапамагае аднаўляцца. Я – прафесійны спартсмен і ведаю ўсе асаблівасці майго арганізму. П'ю я толькі піва. Бутэлечку раніцай, у абед, пазней яшчэ адну. Не болей за паўтара літра. Гэтага хапала, каб перавысіць норму. Але гэта не робіць з мяне п'яніцу. Як, па-вашаму, можна перамагчы на чэмпіянаце Еўропы? П'яным, ці што? Я ўжываю толькі піва, да гарэлкі не дакранаюся."

Як бачым, Андрэй Арамнаў нармальны хлопец, а не нейкі там булдос з-пад гастранома. Ува ўсёй гэтай шуміхе яўна прасочваецца намаганне ягоных патэнцыйных супернікаў вывесці чэмпіёна з раўнавагі напярэдадні падрыхтоўкі да Алімпіяды, што адбудзецца ў Лондане ў 2012 годзе.

Месца пад куфаль піва

## АДНЫМ РЫЎКОМ

### Квіткі




Арганізатары Лонданскай Алімпіяды 2012 абвесцілі цэны на квіткі. Паглядзець на ўрачыстае адкрыццё можна будзе ад 20 да 2012 фунтаў у залежнасці ад месца, а ўваход на фінал стометроўкі ў мужыкоў будзе каштаваць 725 фунтаў. Продаж пачнецца ўжо ў сакавіку 2011. Так што самы час пачынаць адкладаць заначку, каб трапіць на галоўнае спаборніцтва чатырохгоддзя.

### Бейсбол



8 кастрычніка ў Брэсце адбылася цырымонія адкрыцця бейсбольна-софтбольнага стадыёну. Новая арэна дазволіць абласному цэнтру прэтэндаваць на правядзенне ў 2011 годзе Чэмпіянату Еўропы, а таксама павінна садзейнічаць папулярызацыі гэтых экзатычных для нас відаў спорту. І можа праз некаторы час, калі пітчэр з якога-небудзь "Фаніпаль Рэд Сокс" зробіць тры страйкі ў адной серыі падач, зборная Беларусі заваюе нарэшце залатыя медалі.

### Стадыён



У Барысаве прыступілі да будоўлі новага футбольнага стадыёна на 13 тысяч месцаў. Новы архітэктурны шэдэўр абыйдзецца прыблізна ў 20 мільёнаў даляраў. Праз паўтарыдва гады, любы мінчук, сеўшы ў машыну і праехаўшы ўсяго 60 км, зможа апынуцца на арэне еўрапейскага ўзроўню.

### Маладзёжка



Футбалісты беларускай маладзёжнай зборнай заваявалі права выступіць на Чэмпіянаце Еўропы-2011. Нашы юнакі па суме дзвюх сустрэч выбілі з турніру масцітых італьянцаў. Першы матч прайгралі 0:2, а вось у другім адквіталіся – 3:0. Фінальная частка турніру пройдзе на палях Дацкага каралеўства з 11 па 25 чэрвеня.

### Баскетбол



Жаночая зборная Беларусі па баскетболу, якая з поспехам выступіла на нядаўнім Чэмпіянаце свету ў Чэхіі, заняўшы 4-е месца, атрымала ад Міжнароднага алімпійскага камітэту 100 тысяч даляраў. Грошы пойдуць на падрыхтоўку да лонданскай Алімпіяды. Праўда, пуцёўкі туды яшчэ трэба будзе заваяваць на наступным Чэмпіянаце Еўропы.

### Фінал




На паседжанні выканкаму УЕФА, якое адбылося ў пачатку кастрычніка ў Мінску, кіраўнік арганізацыі Мішэль Плаціні абвесціў, што адкрыццё Еўра-2012 адбудзецца ў Варшаве, а матч за 1-е месца – у Кіеве. Балельшчыкам ужо зараз трэба браніраваць білеты на цягнік да ўкраінскай сталіцы, каб у выпадку, калі беларускія футбалісты дойдуць да фіналу, забяспечыць ім годную падтрымку.

[на пасашок]

# Такі хорар, што прыйдзецца хавацца ў бульбу!

**7 лістапада ў межах кінафестывалю “Лістапад” прайшоў прагляд разрэкламаванага трылера “Масакра”, а з 11-га першы фільм новай эры беларускага кіно можна пабачыць у кінатэатрах краіны.**




Рэжысёр фільму Андрэй Кудзіненка кажа, што гэта нетрадыцыйны фільм жахаў, а ягоная беларуская версія, якую рэжысёр назваў “бульбахорарам” — сінтэз драмы і камедыі. Акрамя мядзведзя Сцёпы, у фільме зняліся расійскія акторы Дзмітрый Мілер, Андрэй Назімаў, Марыя Кудраневіч, беларусы Настасся Зелянкоўская, Алег Гарбуз, Сяргей Журавель і Аляксандр Колбышаў. Бюджэт фільму склаў пяць мільярдаў беларускіх рублёў. Аднак, па словах Кудзіненкі, за вылікам падаткаў і бюракратычных працэдураў, на кіно пайшло каля 900 тысяч долараў. Гэта робіць карціну адной з найдаражэйшых у гісторыі беларускага кінематографа. У далейшых планах рэжысёра — некалькі магчымых стужак. Гэтак, цяпер распрацоўваецца праект эпічнага кіно паводле легендарнага зборніка Яна Баршчэўскага “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях”. Што ж, пажадаем поспехаў Андрэю ў гэтай нялёгкай справе, а самі паспяшаемся па квіткі, каб на ўласныя вочы пабачыць першы беларускі містычны трылер.



## ГОН НАЎЗДАГОН

### “Файла”-абменнік



Калі, навучаўшыся ў інстытутах, я пісаў камп'ютэрныя праграмы для абібокаў, грошы ніколі не браў. Узнагарода за працу называлася “файл”, што раўнялася пляшцы піва: “Я гэта зраблю за некалькі файлаў…” Менавіта тады я адчуў асалоду ад магічных слоў “ячменны колас”…

### “Ой, рана на Івана...”



Калі я адзначаў “ligo” (латышскі аналаг нашага Купалля – рэд.), мне адмовілі ў бары піва. Я пакрыўдзіўся й пайшоў да дзяўчыны, якая жыла насупраць. Яна паклала мне на галаву дубовы вянок і адчыніла бацькаў склеп. Мне было чатырнаццаць...

Вядучы рубрыкі **Ярыла ПШАНІЧНЫ**
Малюнкі **Анатоль ТАДОРСКІ**

# Дзе знайсці газету “Піўная” і прыемна папіць піва

**Паб-клуб “Graffiti”**, зав. Калініна, 16, 11:00 – 23:00, пт-сб 11:00 – 02:00
**Кафэ-бар “Бастыён”**, вул. Валгаградская, 35, 12:00 – 23:00
**Піўны рэстаран “7 тонн”**, вул. Я.Коласа, 42, 11:30 – 24:00
**Клуб “Алекс’с”**, вул. Чарнышэўскага, 10а, 11:00 – 04:00
**Більярдная “Пирамида”**, вул. Чарнышэўскага, 10а, 10:00 – 08:00, бар 10:00-06:00
**Кафэ “Габрово”**, пр-т Незалежнасці, 81, пн-пт – 10:00 – 24:00, сб-нд 1:00 – 24:00
**Клуб “R-Club”**, вул. Сурганава, 26, 11:00 – 05:00
**Піўны рэстаран “Inter Pub”**, вул. Сурганва, 50, 09:00 – 02:00
**Кафэ-піцэрыя “Колесо”**, вул. Куйбышава, 40, 10:00 – 01:00
**Паб “Пинта XXL”**, вул. Кульман, 11, нд-чц: 12:00 - 24:00, пт-сб: 12:00 - 02:00
**Рэстаран “Шынок у Лявона”**, вул. В.Харужай, 17, 11:00 – 23:00
**Клуб “Реактор”**, вул. В.Харужай, 29, 22:00 – 06:00
**Кафэ “Сытый папа”**, вул. В.Харужай, 8, 08:00 – 05:00
**Кафэ “Pub Club Mixx”**, вул. Чырвоная, 12, 12:00 – 03:00
**Кафэ “Банана Кафе”**, вул. Старажоўская, 7, 10:00 – 05:00
**Страўня “Стары горад”**, вул. Багдановіча, 19, 12:00 – 00:00
**Кафэ “Казачны замак”**, пр-т Незалежнасці, 83, 12:00 – 23:30
**Кафэ-бар “Альцэста”**, вул. Багдановіча, 78, 11:00 – 24:00
**Кафэ “Beatles”**, вул. Ціміразева, 65, 10:00 – 01:00
**Рэстаран “Пивная История”**, 1-ы Загарадны завулак, 20, пн-чц 9:00 – 00:00; пт 9:00 – 6:00; сб 12:00 - 6:00; нд 12:00 – 00:00
**Рэстаран “Ямайка”**, вул. Альшэўскага, 10, пн-чц 14:00 – 03:00, пт 14:00 – 05:00, сб- нд 12:00 – 05:00
**Рэстаран “Пицца-Фут”**, вул. Прытыцкага, 19а, 11:00 – 24:00
**Кафэ “Зелёная поляна”**, вул. Кальварыйская, 17, кругласутачна
**Амерыканскі бар “DOODAH KING”**, вул. Берсана, 14, 11:00-05:00
**Ірландскі паб “Дрожжи United”**, вул. Свярдлова, 2, 09:00 – 02:00
**Кафэ-бар “Провинция”**, вул. Рэвалюцыйная, 2, 11:00 - 06:00
**Кафэ “Спиналь”**, вул. Куйбышава, 48, 11:00 – 23:00
**Кафэ-бар “KABAB.JI”**, пр-т Незалежнасці, 71, 11:00 – 23:00
**Кафэ “Чебуречная”**, вул. Валадарскага, 9, 10:00 – 23:00
**Страўня “Камяніца”**, вул. Першамайская, 18, 12:00 – 23:00
**Кафэ “Добрыя мыслі”**, вул. Магілёўская, 12, 10:00 – 23:00
**Клуб “Verona Pub”**, вул.Гікала, 5, 12.00 – 06.00
**Рэстаран “Квартал CITY”**, вул. Маскоўская, 9, 07:00 – 05:00
**Кафэ-бар “Радзівіл”**, вул. Я.Купалы, 23, 11:00 – 23:00
**Рэстаран “Піпл’с”**, вул. Кальварыйская, 1, 12:00 – 01:00
**Піўны бар “Старая мельница”**, пр-т Незалежнасці, 78, 11:00 – 23:00
**Кафэ “Саквояжъ”**, вул. Раманаўская Слабада, 26, 11:00 – 23:00
**Кафэ “Валерия”**, вул. Валадарскага, 7, 10:00 – 23:00
**Кафэ “Морячок”**, вул. Талбухіна, 14, пн-чц 11:00 – 24:00, пт-нд 11:00 – 02:00
**Кафэ “Pizza Peperoni”**, вул. Талбухіна, 18, 11:00 – 23:00
**Бар “Японский Бог” / “Jolly Roger”**, вул. Талбухіна, 4, штодня 14:00 – 01:00
**Кафэ-бар “Plahoff”**, вул. Прытыцкага, 2а, штодня, 11:00 – 24:00
**Піўны рэстаран “Старое русло”**, вул. Ульянаўская, 7, 12:00 - 23:00
**Кафэ “Улей”**, вул. Маякоўскага, 10, 10:00 - 22:00
**Кафэ-піцэрыя “Дом папочки”**, пр-т Машэрава, 29, 12:00 - 23:00
**Кафэ “Любавушка”**, вул. В. Харужай, 8 (“Камароўскі рынак”), 10:00 – 23:00
**Кафэ “Шашлычная”**, вул. В. Харужай, 6Б (“Камароўскі рынак”), 09:00 – 19:00 акрамя панядзелка
**Рэстаран “Кабачок 12”**, вул. Я.Коласа, 38, 11:00 - 23:00
**Більярдны клуб “Классик”**, вул. П. Броўкі, 8А, 10:00 - 07:00
**Кафэ “Café Brutto”**, вул. П. Броўкі, 3/2, 9:00 - 23:00
**Рэстаран “У Барысыча”**, вул. П. Броўкі, 12, 11:00 - 23:00
**Кафэ “Жбан”**, вул. П. Броўкі, 16, 08:00 - 23:00, пт-сб 08:00 - 05:00
**Кафэ-бар “Эвелин”**, вул. Даўгабродская, 4, 11:00 - 23:00
**Кафэ-піцэрыя “Olivo”**, пр-т Незалежнасці, 46, 10:00 - 22:00; на выходных 12:00 - 22:00
**Кафэ “Европит”**, пр-т Незалежнасці, 76, 10:00 - 23:00
**Кафэ “Мохнатый шмель”**, вул. Усходняя, 129, 11:00 – 23:00
**Рэстаран “Кавказская пленница”**, вул. Някрасава, 11, 12:00 - 00:00
**Кафэ “Налібокі”**, вул. Кульман, 4, 10:00 - 23:00
**Кафэ-бар “Мастер Бис”**, вул. Ленінградская, 14, 10:00 - 24:00
**Бар “Снежинка”**, вул. Свярдлова, 22, 10:00 - 23:00
**Кафэ-бістро “Маёнтак”**, вул. Свярдлова, 32, 11:00 - 22:00
**Кафэ “Мядуха”**, вул. Кірава, 11, 11:00 - 23:00
**Кафэ-піцэрыя “Фрэскі”**, пл. Свабоды, 23, 10:00 - 01:00
**Рэстаран-бістро “Byblos”**, вул. Інтэрнацыянальная, 21, 12:00 - 24:00
**Рэстаран-бістро “Byblos”**, вул. К.Маркса, 10, 12:00 – 24:00
**Сушы-бар “Манга”**, пр-т Незалежнасці, 47, 12:00 - 23:00
**Кафэ “У Янкі”**, вул. К. Маркса, 21, 11:00 - 23:00
**Рэстаран “Старые традиции”**, пр-т Незалежнасці, 57, 11:00 - 23:00
**Кафэ-паб “Live Pub”**, вул. Камсамольская, 34, 11:00 -01:00
**Сушы-паб “Пинта VIP”**, вул. Берсана, 16, 12:00 – 02:00
**Кафэ “Tapas Bar”**, вул. Інтэрнацыянальная, 9, 11:00 – 00:00
**Кафэ-клуб “Товарищ”**, вул. Я.Купалы, 21, 12:00 – 24:00
**Бар “Мистраль”**, вул. К.Маркса, 6/22, пн – чц, нд 12:00 - 24:00, пт - сб: 12:00 - 02:00
**Рэстаран “Статский советник”**, вул. Чкалава, 12, 11:00 -06:00
**Кафэ-бістро “ГородОК”**, ТЦ “Сталіца”, ніжні ўзровень, 10:00 – 22:00
**Кафэ “Трактир на Маркса”**, вул. К.Маркса, 21, пн - пт: 10:00 - 23:00, сб - нд: 11:00 - 23:00
**Кафэ-піцэрыя “Кружка”**, ТЦ “Сталіца”, ніжні ўзровень, 10:00 – 24:00

**Пытайцеся газету, не адыходзячы ад бара!**




**“Піўная. Газета пра піва і пад піва”**
Газета зарэгістраваная Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 24.06.2009 г. за №531
**Галоўны рэдактар:**
**Паўлюк Канавальчык**
(ён жа Павел Генадзьевіч, ён жа дырэктар)
Заснавальнік і выдавец: Установа Інфармацыйна-выдавецкае агенцтва “ПостМедыя”

Юрыдычны адрас:
220005 г.Мінск, пр.Незалежнасці, 58-417
Тэл./факс: +375 17 292 88 77
Адрас для карэспандэнцыі:
220034 г. Мінск, п/с 1
Электронны адрас:
gazeta@piunaya.by
Дадатковую інфармацыю можна знайсці на афіцыйным сайце газеты:
**piunaya.by**

Адказнасць за змест рэкламы нясе рэкламадаўца.

Матэрыялы, што публікуюцца ў рубрыках “Прэзентацыя, “Аматарам піва”, “Дэгустуем разам” друкуюцца на правах рэкламы.

Пры передруку матэрыялаў спасылка на газету абавязковая.

Газета надрукаваная ў РУП “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”, Ліцэнзія №02330/0494179 ад 3.04.2009
220013 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79
**Тыраж 4100 экз.**
Нумар падпісаны да друку: 15.11.2010 г. а 19:15:25
Заказ № 4968

Кошт свабодны